Народная Воля
http://www.nv-online.info
17 СТУДЗЕНЯ 2014 г.

ДЫСКУСІЯ

# Ці ведае спадар Тарас, чым жыве краіна?



*Анатолій Тарас*.

У нумары за 24 снежня 2013 года было надрукавана інтэрв'ю гісторыка і выдаўца Анатолія Тараса. У ім спадар Тарас апісвае Беларусь як квітнеючую ва ўсіх адносінах еўрапейскую краіну з заможным насельніцтвам, якое не жадае ніякіх змен. І толькі *"политики не у власти"* і *"часть творческой интеллигенции"* працягваюць баламуціць ваду, перашкаджаючы сваёй "местечковостью" паступальнаму руху лукашэнкаўскай Беларусі ў глабальны свет...

Намаляваная Тарасам карціна настолькі адарваная ад рэальнага жыцця большасці беларусаў (асабліва ў рэгіёнах), што ўзнікае сумненне: а ці ведае спадар Тарас увогуле, чым жыве краіна? Акрамя таго, спадар Тарас свядома скажае і перакручвае факты, жангліруе лічбамі і, як кажуць, падганяе рэчаіснасць пад сваю сістэму поглядаў. Давайце разбірацца разам.

Спадар Тарас сцвярджае, што ў краіне адсутнічае эканамічны крызіс, а беларусы маюць даволі высокі ўзровень жыцця, бо *"по улицам ездят тучи новеньких машин, около городов множество коттеджей. В городах чистота. Магазины завалены товарами, люди добротно одеты"*.

Шаноўны спадар Тарас, напэўна, вы не ведаеце, што большасць беларусаў набывае і апранаецца ў танны і нізкаякасны кітайскі *"ширпотреб"?!* І робяць яны гэта менавіта з-за таго, што не маюць дастаткова сродкаў, каб набыць якасную рэч з натуральных матэрыялаў (нават беларускай вытворчасці). Так, кітайская вопратка выглядае прывабна, таму што кітайцы навучыліся аператыўна падрабляць вядомыя брэнды, але ж гэта ну ніяк не можа сведчыць пра заможнасць — хутчэй зусім наадварот. Тое ж тычыцца і "заваленых таварамі" крам. Я разумею, што большая частка свядомага жыцця спадара Тараса прыйшлася на часы савецкага дэфіцыту, калі каляровы тэлевізар і югаслаўскі мэблевы гарнітур былі верхам мар, але ж як трэба не паважаць свой народ, каб лічыць вялікім дасягненнем магчымасць набыць без блату ў краме кавалак вэнджанай каўбасы ці жаночыя боты!

Спадар Тарас, *усе* цывілізаваныя краіны Еўропы пакутуюць ад перавытворчасці сельгаспрадукцыі, а вы прапануеце нам радавацца, што ў XXI стагоддзі ў нас няма талонаў на макарону і крупы?

Абсалютна незразумела, на падставе якіх дадзеных спадар Тарас сцвяржае, што беларусы масава набываюць і ездзяць на новых машынах. Так, Беларусь займае адно з першых месцаў сярод краін былога СССР па колькасці аўтамабіляў. Але абсалютная большасць з іх — гэта вельмі і вельмі патрыманыя іншамаркі, якія масава вывозілі не толькі з Германіі і іншых заходнееўрапейскіх краін, але і з краін Балтыі і Польшчы. Набыццё беларусамі новых машын для асабістага карыстання кожны год не перавышае статыстычнай пагрэшнасці (3—5%). А за добры выгляд і належны тэхнічны стан 25—30-гадовых машын трэба сказаць дзякуй іх былым еўрапейскім уладальнікам.

Што ж тычыцца катэджаў, то няўжо ж спадар Тарас верыць у тое, што іх будуюць ці набываюць рабочыя ці настаўнікі? У рэгіёнах людзі атрымліваюць заробкі на ўзроўні 300 долараў. Якія катэджы, спадар Тарас? Вы ў сваім розуме? На гэтыя грошы нават пакой у маласямейцы не набудзеш. Катэджы — гэта ўласнасць вузкага кола людзей, якое складаецца з чыноўнікаў, супрацоўнікаў сілавых структур і набліжаных да ўлады бізнесменаў. Ну і, зразумела, іх любімых дзетак. Большасць жа беларусаў марыць пабудаваць тыповую савецкую кватэру па так званым ільготным крэдыце, узваліўшы на сябе і сваю сям'ю пазыковае ярмо на доўгія дзясяткі гадоў. Прытым што беларускія працэнты па "льготных" крэдытах на будаўніцтва жылля большыя, чым на Захадзе працэнты па самых звычайных, "неільготных", крэдытах.

Таму не бачу ніякага дасягнення ў масавым будаўніцтве, пра якое з такім захапленнем кажа спадар Тарас. Будуючы жыллё па дзяржаўным крэдыце, чалавек ператвараецца ў маўклівую істоту, якая баіцца сказаць слова, каб абараніць самыя простыя свае правы, бо ў Беларусі гэта можа пацягнуць страту працы, а значыць, і страту кватэры.

Я згодны са спадаром Тарасам у тым, што за апошнія гады ў Беларусі значна ўзрос узровень спажывання. Але за кошт чаго? Нават ужо ўлады (у асобе самога кіраўніка ўрада) прызналі існаванне 450 тысяч гастарбайтараў (незалежныя і міжнародныя эксперты называюць лічбу 700 тысяч), якія ў масе сваёй нелегальна працуюць у Расіі без аніякіх сацыяльных гарантый, рызыкуючы страціць не толькі здароўе, але і жыццё. Менавіта яны прывозяць у Беларусь сотні мільёнаў долараў, забяспечваючы сваім сем'ям хоць крышачку годнае жыццё. Што ж гэта за краіна, спадар Тарас, грамадзяне якой вымушаны пакідаць Радзіму, згаджаючыся амаль на рабскую працу, каб зарабіць на кавалак хлеба?! Таму і цяжка знайсці брыгаду для рамонту, бо абсалютная большасць будаўнікоў-прафесіяналаў працуе на бяскрайніх расійскіх абшарах, не жадаючы "гарбаціцца" за жабрацкі заробак у Беларусі.

Цалкам некарэктныя, на маю думку, сцвярджэнні спадара Тараса і пра тое, што беларусы жывуць лепш за балгар і румын. Тады давайце, шаноўны, нагадаем чытачам, што Беларусь набывае ў Расіі энерганосьбіты (газ і нафту) па найменшых у Еўропе коштах, у разы меншых, чым тыя, якія выстаўляюцца Балгарыі і Румыніі. А гэта мільярды і мільярды долараў. У спісе буйнейшых падаткаплацельшчыкаў Беларусі — сыравінныя расійскія кампаніі, "Беларуськалій" і нашы нафтаперапрацоўчыя заводы. Фактычна ўвесь лукашэнкаўскі "росквіт" — гэта паразітаванне на расійскіх рэсурсах. Пра якія "дасягненні" вы кажаце, спадар Тарас, калі 10-мільённая краіна залежыць ад волі Крамля? Якая ж гэта незалежнасць? Незалежнасць — гэта перш за ўсё моцная, высокатэхналагічная эканоміка, чаго па факце ў Беларусі няма. Але нават пры такіх шчодрых расійскіх датацыях кошты на прадукты, прамысловыя тавары і нерухомасць у Беларусі ў разы вышэйшыя, чым у большасці краін Усходняй Еўропы. Вось таму і ездзяць жыхары Беларусі ў літоўскі "Акрапаліс" ці польскую "Бядронку", каб сэканоміць лішнюю капейчыну.

Што ж тычыцца Грэцыі, то не спекулюе на гэтай тэме толькі лянівы. Вы ведаеце, спадар Тарас, які памер дапамогі па беспрацоўі і іншыя сацыяльныя выплаты ў Грэцыі? Нават пасля ўвядзення там мер так званай жорсткай эканоміі беларусы могуць пра такія толькі марыць. Дарэчы, я так і не зразумеў, якія аўтарытарныя метады меў на ўвазе спадар Тарас, калі казаў пра барацьбу з крызісам у Грэцыі? Там на супрацьўрадавых мітынгах ультралевыя радыкалы чыняць пагромы крам, падпальваюць сотні машын, збіваюць паліцэйскіх і захопліваюць адміністрацыйныя будынкі. І рэдка калі заводзяцца крымінальныя справы! Наадварот — урад лічыць цалкам заканамерным народнае незадавальненне. Напрыклад, тым, што працоўны дзень зараз у Грэцыі будзе заканчвацца не ў 15, а ў 17 гадзін. Спадар Тарас, вы ведаеце, што ў Грэцыі паліцыі забаронена на заканадаўчым узроўні ўваходзіць на тэрыторыю ўніверсітэта без дазволу яго кіраўніцтва? Калі ж вы лічыце "аўтарытарызмам" выкрыццё міжнародных спекулянтаў і мафіёзных груповак, якія адмываюць грошы ў грэчаскіх афшорах, то ў вас вельмі дзіўнае паняцце пра прававую дзяржаву і законнасць.

Напэўна, вы таксама ніколі не бачылі і нічога не ведаеце пра жыццё беларускіх пенсіянераў. Многія з іх маглі б падзяліцца з вамі сакрэтам, як можна пражыць цэлы месяц на нятлустым кефіры, чорным хлебе, бульбе і гарбаце без цукру. Бо пасля набыцця лекаў і аплаты паслуг ЖКГ нічога іншага проста не застаецца. Дарэчы, нешта я не бачыў арганізаваных турыстычных груп з беларускіх дзядуль і бабуль на вуліцах Вільнюса. Напэўна, у іх такая вялікая пенсія, што літоўская сталіца — гэта ўжо не прэстыжна, спадар Тарас? І душацца ў чэргах у нас за таннай гароднінай яны выключна са спартыўнага інтарэсу?

Выснова спадара Тараса пра тое, што *"мы должны сравнивать себя не с Европой, не с княжеством Лихтенштейн, а с самими собой двадцатилетней давности. Мы сейчас живем несравненно лучше. И это — правильная оценка",* — сапраўдны маніфест прыхільніка тэзіса "каўбаса замест свабоды". А як жа грамадзянская самасвядомасць, павага да сябе як асобы, смеласць адстойваць свае погляды, магчымасць выказаць пратэст? Для вас, спадар Тарас, гэтыя рэчы зусім нічога не значаць? Дык там, дзе няма свабоды, і з каўбасой будуць праблемы, што мы і назіраем у Беларусі. Хай спадар Тарас паразмаўляе з чарнобыльскімі ліквідатарамі ці ветэранамі афганскай вайны. Яны яму распавялі б пра тое, як "палепшылася" іх жыццё пасля адабрання заслужаных сацыяльных гарантый пры поўным ігнараванні сённяшняй дзяржавай іх праблем і турбот. Дайшло да таго, што герояў-ліквідатараў прынізілі, адабралі пасведчанні і назвалі "пацярпелымі"... Напэўна, пра "паляпшэнне жыцця" сведчыць і тое, што ў краіне вось ужо некалькі год запар зачыняюць паштовыя аддзяленні ў вёсках, бо "квітнеючая" Беларусь не можа выдзеліць грошы на ўтрыманне нават такіх важных для вёскі аб'ектаў. Такія прыклады можна прыводзіць бясконца, яны на паверхні, але спадар Тарас чамусьці іх не заўважае (ці свядома не хоча гэтага рабіць).

Калі вы, спадар Тарас, не бачыце праблем, то гэта не значыць, што іх не існуе. Напрыклад, разважаючы пра галоўныя каштоўнасці беларусаў, вы з упэўненасцю кажаце пра сямейныя каштоўнасці. Спусціцеся з нябёс на грэшную зямлю, шаноўны! Здыміце з вачэй шоры — беларускае грамадства знаходзіцца ў цяжкім і глыбокім маральным крызісе. Змены і рэформы патрэбны краіне, як паветра! Усе нармальныя людзі гэта выдатна разумеюць. Таму я катэгарычна не магу пагадзіцца са словамі спадара Тараса аб тым, што *"народ не хочет своими телами, ценой своего хрупкого благополучия прокладывать политикам путь к власти, путь в "Белый дом"*.

Незразумела, на чым ён засноўваецца, калі робіць такія зняважальныя і абуральныя заявы. Галоўнае патрабаванне дэмакратычнай апазіцыі — гэта выкананне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Сёння ж мы бачым тое, што ўлады дэманстратыўна і нахабна, вобразна кажучы, выціраюць аб Канстытуцыю ногі і плююць на Закон. Прыкладаў таму — процьма. Апазіцыя якраз і дабіваецца таго, каб улада адказвала на самыя непрыемныя пытанні і тлумачыла грамадству, чаму так часта прымаюцца непрадуманыя і шкодныя рашэнні, якія вызначаюць штодзённае жыццё мільёнаў людзей. І калі нашы суайчыннікі выходзяць на акцыі пратэсту, то робяць яны гэта не таму, што іх падманулі ці падставілі апазіцыйныя палітыкі. Людзі выходзяць, таму што бачаць і адчуваюць на ўласнай шкуры (!) тое беззаконне, якое адбываецца ў краіне. Калі ж вы, спадар Тарас, лічыце прымальным існаванне рэжыму аднаасобнай, аўтарытарнай і пажыццёвай улады аднаго чалавека, не абмежаванага ніякімі рамкамі ў сваім свавольстве, то не кажыце тады пра еўрапейскі шлях.

Не магу пакінуць без каментарыя грэблівую рэпліку спадара Тараса пра непатрэбнасць для беларускай дзяржавы беларускай мовы (нават гучыць неяк дзіўна). Не буду ўступаць па гэтым пытанні ў доўгую палеміку, бо непавага для нацыянальнай культуры, фундаментам якой, без сумневаў, з'яўляецца нацыянальная мова, гэта, як кажуць, ужо дыягназ. Справа не ў тым, карыстаешся ты беларускай мовай ці не, справа ў паважлівым стаўленні. Заўважу толькі, што, напрыклад, тая ж Расія, дзе няма ніякіх праблем з выкарыстаннем рускай мовы, тым не менш прымае спецыяльны Закон пра абарону рускай мовы, выдаткоўвае грошы на падтрымку рускамоўных асяродкаў і выкарыстоўвае ўсю моц дзяржавы для распаўсюджвання рускай мовы ў свеце.

І не трэба казаць пра аналогіі з Ірландыяй. Выкарыстоўваючы англійскую, ніводны ірландзец ніколі не назаве сябе англічанінам, а ў Беларусі саманазоў *"мы рускія"* чуеш на кожным кроку, нават з вуснаў прэзідэнта. Да таго ж у ірландцаў ёсць іншы (надзвычай моцны) фактар нацыянальнай ідэнтычнасці — рэлігійны, які ўспрымаецца пераважнай большасцю ірландцаў як вызначальны. У беларусаў гэтага і блізка няма, яшчэ ўчора большасць аднагалосна галасавала на сходах за разбурэнне храмаў і кляйміла ганьбай "клятых папоў", а сёння ходзіць у рускую праваслаўную царкву, якая з'яўляецца, адкрыта скажу, агентам уплыву шавіністычнай імперскай Расіі.

Напрыканцы хацелася б заступіцца за нашых творцаў, якіх спадар Тарас папракае *"местечковостью"* і *"тутэйшасцю"*. Я так разумею, ён меў на ўвазе тых творцаў, у чыіх працах прысутнічае моцны нацыянальны пачатак. Дык што, мы павінны адмовіцца ад спадчыны **Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Алеся Петрашкевіча** ці **Алеся Марачкіна** толькі таму, што іх дрэнна ведаюць у Еўропе? Дык тады трэба, спадар Тарас, свае кніжкі выдаваць па-англійску, а не па-руску.

Відавочна, што спадару Тарасу не хапае аб'ектыўнасці. Ён стаў закладнікам сваіх светапоглядных мадэляў і ідэалагічных установак. З такім заганным падыходам выступаць экспертам у пытанні "Трансфармацыі беларускай ментальнасці" проста не выпадае.

**З павагай —**

**Дзяніс РАБЯНОК,**
**актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

*г.Калінкавічы.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Як Максім Танк і Пімен Панчанка Расула Гамзатава падтрымалі

У першым нумары "Народнай Волі" за гэты год былі змешчаны два радкі з верша Расула Гамзатава: "*И если вдруг исчезнет завтра мой язык, // Я готов сегодня умереть*". Цалкам вітаю патрыятычны і інтэрнацыянальны па сваёй сутнасці намер папулярнай газеты падтрымаць развіццё родных моў народаў свету, у тым ліку і беларускай, якая, на жаль, з-за нашага "пусці — павалюся" трапіла ў "Чырвоную кнігу моў свету" ЮНЭСКА. Разам з тым хачу заўважыць: цытата з верша не зусім дакладная. Нават вершаваны памер у ёй не захаваны. Вось як гучаць гэтыя радкі з верша Р.Гамзатава "Родной язык" у перакладзе на рускую мову *(гл.: Гамзатов Р. Избранное: в 2-х т. Т. 1. М., 1964. С. 161):*

*Кого-то исцеляет от болезней*
*Другой язык, но мне на нем не петь,*
*И если завтра мой язык исчезнет,*
*То я готов сегодня умереть.*

Напісаў свой верш народны паэт Дагестана на пачатку 1960-х гадоў, калі ў свядомасць грамадства, у адпаведнасці з хрушчоўскім лозунгам "*Нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме!"*, пачала актыўна ўкараняцца ідэя *"зліцця савецкіх нацый і нацыянальных моў"* — эўфемізм паскоранай русіфікацыі. На справе гэта азначала: у СССР пры камунізме, які, як казаў Маркс, *"сатрэ ўсе граніцы"*, павінна быць адна мова, зразумела — руская. Заўважу, лёс такой агульнай "камуністычнай" мовы Карл Маркс звязваў з мовай нямецкай, Мао Цзэдун — з кітайскай... І вось некаторыя выдатныя дзеячы нацыянальных культур, сярод якіх быў той жа Р.Гамзатаў, адважыліся (канешне, у межах савецкага падцэнзурнага друку) выступіць супраць адкрытай і прыхаванай русіфікацыі.

Сюжэт згаданага верша даволі просты: лірычнаму герою паэта прысніўся сон, быццам бы ён паміраў у адной з далін Дагестана. Ніхто яго ўжо не мог ўратаваць: ні доктар, ні знахар. І вось тут, паміраючы, ён пачуў двух людзей, якія вялі гутарку на яго "*родном аварском языке*". І здарыўся цуд: ён стаў ачуньваць! Якраз пасля гэтага ў вершы ідзе страфа, якую я прывёў вышэй.

Праўда, каб не абвінавацілі паэта ў нацыяналізме (бывала, што па такім абвінавачванні творчых людзей садзілі ў турму, як гэта здарылася тады з некаторымі ўкраінскімі пісьменнікамі), ён тут жа прызнаецца ў любові да ўсёй савецкай краіны: "*Люблю я край советский и свободный, // От Балтики до Сахалина — весь!*". Нават смела заяўляе: "*Я за него погибну где угодно*". Аднак з адной умовай: каб пахавалі яго менавіта ў родным куце, на роднай зямлі,

*Чтоб у плиты могильной близ аула*
*Аварцы вспоминали иногда*
*Аварским словом земляка Расула,*
*Наследника Гамзата из Цада.*

Памятаецца, як пасля публікацыі гэтага верша некаторыя па-імперску настроеныя расіяне пачалі зласловіць: Гамзатаў, відаць, супраць палітыкі партыі, не хоча "зліцця" мовы, якой валодаюць менш чым паўмільёна чалавек, *"с великим и могучим"...* А яму ж далі Ленінскую прэмію, а руская мова яго вывела ў свет... І г.д., і т.п. Аднак аварскага паэта сваім словам тады падтрымалі і сапраўдныя рускія пісьменнікі-інтэрнацыяналісты, і іншанацыянальныя, у прыватнасці нашы **Максім Танк** і **Пімен Панчанка**. Але гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя...

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**доктар філалагічных навук, прафесар.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Ці маюць беларусы права на сваю царкву?

*У артыкуле Валерыя Карбалевіча "Митрополит в нагрузку", які нядаўна быў надрукаваны ў "Народнай Волі", гаварылася аб палітычных, эканамічных і прававых аспектах прызначэння новым кіраўніком Беларускай праваслаўнай царквы грамадзяніна Расіі мітрапаліта Разанскага і Міхайлаўскага Паўла.*

*Пытанне можна паставіць больш востра: а ці маюць беларускія праваслаўныя права на сваю царкву?*

На гэтае пытанне варта адказаць станоўча, зыходзячы з наступных меркаванняў.

Па-першае, абвяшчэнне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь (у Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР ад 27 ліпеня 1990 г. і ў арт.1 Канстытуцыі 1994 г.) прадугледжвае, што беларускі народ і створаная ім дзяржава маюць права самастойна вызначаць сваю ўнутраную і знешнюю палітыку. Гэта ўключае і права мець самастойную (аўтакефальную ) царкву. Так паступаюць практычна ўсе дзяржавы. Пры гэтым аўтакефальныя цэрквы арганізацыйна ўваходзяць у рэлігійныя сем'і (каталіцкую, праваслаўную, пратэстанцкую, мусульманскую).



У Беларусі чамусьці не створана свая праваслаўная царква. Замест яе з "екацярынінскіх" часоў дзейнічае філіял Рускай праваслаўнай царквы. Да гэтага часу ён працягвае працэс русіфікацыі, пачаты з часоў акупацыі беларускіх земляў арміяй А.Суворава.

Гэта азначае, што суверэнітэт Беларусі ў рэлігійнай сферы (як, зрэшты, і ў іншых сферах) абмежаваны. Між тым дасягненне поўнага суверэнітэту аўтаматычна цягне за сабой стварэнне аўтакефальнай царквы, у якой святары з'яўляюцца сваімі грамадзянамі і праводзяць службу на нацыянальнай мове.

Па-другое, па Канстытуцыі царква аддзелена ад дзяржавы. Значыць, "кесар" не мае права ўмешвацца ў справы царквы. Яе аўтарытэты самі маюць права і павінны абіраць кіраўніка царквы. Вядома, са сваіх шэрагаў.

Па-трэцяе, у артыкуле В.Карбалевіча адзначалася, што прызначэнне кіраўніком Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліта Паўла супярэчыць артыкулу 13 Закона "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях".

Тым самым, варта канстатаваць факт непаважлівага стаўлення да пачуццяў праваслаўных беларусаў, а таксама факт парушэння суверэнітэту краіны.

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар.**

РЭЗАНАНС

## Пенсия — это не подачка власти!

В одном из недавних номеров "Народной Воли" прочел статью о Борисе Хамайде. С одной стороны, он достоин уважения за жизненную, гражданскую позицию, убеждения, но то, как он распорядился своей пенсией, на мой взгляд, похлеще фиги в кармане. Ведь вольно или невольно он подарил нелегитимной (как он выразился) власти деньги в сумме 100—200 миллионов рублей! Если бы эти деньги он отдал на лечение больных детей — то это был бы в высшей степени благородный поступок. Мог также пожертвовать эти деньги независимой прессе.

Пенсию человек зарабатывает — это не подачка власти!

С уважением —

**Александр ЗЕЛЕНКЕВИЧ,**
**постоянный подписчик "Народной Воли", пенсионер.**




ТАК ДУМАЮ

## Спички — это не мелочь!

Не знаю, как многие, а я по старинке пользуюсь на кухне спичками — такая уж привычка. И вот заметила, что в последнее время все труднее стало разжигать конфорку газовой плиты. Спички стали заметно тоньше, и, пока донесешь их до конфорки, она быстро сгорает, нередко при этом обжигая пальцы.

Посмотрела изготовителя спичек — г.Борисов, то есть давно известная фабрика. Видимо, режим экономии коснулся и ее, и она буквально понимает выражение "экономия на спичках". Хотя обычно этот термин используют тогда, когда речь идет о нерадивых хозяевах, не умеющих экономить там, где это действительно нужно...

**Розалия РУБИНЧИК,**
**пенсионерка.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

## Ці патрэбны нам гарналыжныя курорты?

Я стары ўжо чалавек і на горных лыжах катацца не змагу, але ўсё роўна крыўдна, што на "дзікім Захадзе" гэтай зімой маюць такую забаву, а мы на цывілізаваным усходзе гэтага пазбаўлены, хоць маем гарналыжныя комплексы.

А ўсё таму, што там яны знаходзяцца ў гарах на пэўнай вышыні, дзе, згодна з законамі фізікі, тэмпература звычайна ніжэй і бясснежных зім практычна не бывае. Ці варта было ў нізіннай Беларусі будаваць гарналыжныя комплексы?

**Валерый ЛІСТАПАД.**
*Слуцкі раён.*

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ



*На пытанні чытачоў "Народнай Волі" адказвае намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства абароны спажыўцоў"* ***Васіль ВАЛАСЮК.***

### Перастала працаваць гульнявая прыстаўка

*Набылі гульнявую прыстаўку, праз тыдзень яна перастала працаваць. У інтэрнэт-магазіне адмовіліся мяняць яе на аналагічную прыстаўку. Кажуць, што, маўляў, тэхнічна складаны тавар. Што нам рабіць?*

**Сям'я Вяжэвічаў, Магілёў.**

— Так, тавар трэба аддаваць у сэрвісны рамонт. Аднак дашліце прадаўцу прэтэнзію з паведамленнем аб скасаванні ў добраахвотным парадку дамовы аб куплі-продажы і чакайце рашэння на працягу 7 дзён.

### Купіла гадзіннік па пошце

*Купіла па пошце гадзіннік, але аказалася, што ён не працуе. Аплату тавара таксама рабіла на пошце. Ці магу я зараз адправіць пасылку назад і вярнуць грошы?*

**Аксана ЖУКОВІЧ, Лепель.**

— Так, але зафіксуйце актам агляд гадзінніка майстрам.

### У канапе праз год зламаліся спружыны

*Напрыканцы 2012 года набылі канапу, а праз год у яе механізме зламаліся спружыны. Баюся, што ў магазіне адмовяць у вяртанні грошай. Як лепш паступіць?*

**Віталь ТАЛАЙ, Мінск.**

— У гэтым выпадку закон на вашым баку. Калі ў магазіне адмовяць у рамонце ці вяртанні грошай, праводзьце экспертызу і ў судовым парадку скасоўвайце дамову.

### Сандалікі на тыдзень

*Купілі дачцэ сандалікі, яна пахадзіла ў іх у дзіцячым садку літаральна тыдзень, пасля чаго яны парваліся. Прадавец адмовіўся прыняць ці абмяняць тавар. Што рабіць?*

**Святлана ЮЖАНІНА, Магілёў.**

— Прадавец парушыў закон. Зрабіце экспертызу абутку ў спецыяліста, ён вызначыць якасць тавару. Усе выдаткі затым аплаціць прадавец.

### У ботах "паляцеў" замок

*У ботах "паляцеў" замок, хоць купіла іх 20 дзён таму. Што магу патрабаваць ад магазіна, якія ў мяне правы?*

**Алена БІЦАН, Вілейскі раён.**

— Вашу спрэчную сітуацыю вырашыць толькі эксперт. Ён вызначыць, ад чаго паламаўся замок — ці то ад механічнага ўздзеяння, ці то гэта вытворчы брак. Пры наяўнасці экспертнага заключэння, што ёсць брак, тавар вам заменяць.

### Сапсаваўся тэлевізар, які купіў у Польшчы

*Купіў у Польшчы тэлевізар, праз паўгода экран стаў "сняжыць". Што мне зараз рабіць?*

**Віктар КАВАЛЁНАК, Слонім.**

— Няхай тэлевізар паглядзяць спецыялісты — яны праверац правільнасць падключэння, якасць сігналу з антэны... Калі і пасля гэтага тэлевізар будзе "сняжыць", то, напэўна, гэта вытворчы брак. Калі ёсць усе неабходныя дакументы, вам абмяняюць тэлевізар у Польшчы.

### Куртка губляе пух

*Набыла куртку-пухавік, праз месяц стаў вылазіць пух. Ці можна вярнуць назад грошы за куртку?*

**Алеся ЮРЭВІЧ, Маладзечна.**

— Можаце, але, калі адмовяць у абмене, звяртайцеся да эксперта. Хутчэй за ўсё гэта вытворчы недахоп, і тады куртку вам абмяняюць у любым выпадку. Да таго ж вярнуць выдаткі.

### Мяне не задавальняе мультыварка

*Набыла мультыварку, але яна не задавальняе мяне па сваіх функцыях гатавання ежы. Можна яе вярнуць па гарантыі?*

**Вольга КУЛІНІЧ, Мінск.**

— На жаль, нельга. Мультыварка — складанатэхнічны тавар, які можна абмяняць, толькі калі ёсць істотны недахоп. Больш уважліва стаўцеся да выбару такіх тавараў. Лепш пракансультавацца, перш чым іх набыць.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ



Таццяна МАРХЕЛЬ:

# «Статус народнай артысткі недатыкальнасці не дае»

*Падчас размовы з прымай Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі **Таццянай Мархель** мы не толькі ад душы пасмяяліся, але і паплакалі...*

## Тома-Таццяна

**— Таццяна Рыгораўна, ведаю, што вы зараз актыўна рыхтуецеся да юбілейнай вечарыны з нагоды 75-годдзя, якая адбудзецца 19 студзеня…**

— Ой, у мяне такі лёгкі псіхоз наконт гэтага: хвалююся... Думаю, якія ўрыўкі са спектакляў узяць, якія песні выканаць...

**— Шчыра кажучы, думала, што будзе такі вечар-споведзь…**

— Паглядзім, што атрымаецца. Хацелася б, канешне, прыгадаць нейкія яркія эпізоды з жыцця...

Памятаю, як нашу хату спалілі. Калі немцы прыходзілі ў вёску, усе беглі хавацца ў балота — яно побач было. У нас адну хату спалілі, і мы жылі ў такой харошай зямлянцы, там нават печ была. І вось мама аднойчы паставіла варыць на абед нейкі булён з гарохам. А тут немцы! Мы пабеглі, а калі назад вярнуліся, зямлянкі ўжо не было. Узарвалі. Толькі печ засталася. Мама дастала адтуль гэты булён, які ўжо ператварыўся ў кашу. І мы елі, седзячы на развалінах...

Потым пабудавалі яшчэ адну зямлянку, але яна была горшая за папярэднюю: туды вада лілася пастаянна і жабы вакол скакалі...

А вось іншы раз думаю: як выжыла? Нарадзілася ў студзені, у самы мароз, памперсаў не было...

Яшчэ памятаю, як бацьку ў комін клікалі. Спачатку лічылася, што ён знік без вестак. І маме з-за гэтага не давалі дапамогу на дзяцей. Яна знайшла чалавека, якога прызывалі разам з ім у войска, і ён даў сведчанні, што пад Кёнігсбергам бацьку на яго вачах разарвала мінай... Але мама заўсёды казала*: “Адчуваю, што ён жывы, проста баіцца вярнуцца, каб у Сібір не саслалі. Альбо, можа, у палон трапіў”.* Яна чакала яго да апошняга. Калі маці пабудавала хату і паклалі печ, мама першы раз яе запаліла і сказала: *“Ну, дзеці, цяпер давайце ў комін клічце бацьку!”* І мы стаялі і клікалі: *“Татачка, вяртайся дадому, у нас хата новая, мы цябе чакаем!”* Я была самая маленькая і яшчэ паспела паскардзіцца яму на сястру, якая мяне пакрыўдзіла... *(Усміхаецца.)*

Але мы яго так і не дазваліся...

**— Вы заўсёды цікава распавядаеце пра тыя часы. Чаму дагэтуль не сабралі свае ўспаміны ў кнігу? Жывая ж гісторыя!**

— Не ведаю . Жывёш з гэтым пацыху і ведаеш, што яно тваё...

Яшчэ помню, як свіней аб’язджала. У нас іх было 13! Маці парсючкоў гадавала, а потым прадавала, і ў нас былі грошы... Я з 6 да 16 гадоў іх пасвіла і, калі малая была, на іх ездзіла! Дагэтуль, калі прыязджаю ў вёску, некаторыя жанчыны кажуць: *“Тома, ці помніш, як на свіннях каталася?”*

**— А чаму Тома?**

— Мяне звалі Томай з самага дзяцінства. Але, як расказала мама, бацька ў сельсавеце запісаў мяне Таццянай. А ў нас на вёсцы нейкая Таццянка была, якую не вельмі любілі, і мама спалохалася: маўляў, будуць дражніць! І яны з татам дамовіліся зваць мяне Томай. Я была Тамарай аж да заканчэння школы! Атэстат сталасці мне выпісалі на Таццяну, і так я ў 16 гадоў атрымала новае імя. Цяпер ужо прывыкла, а спачатку, канешне, было цяжкавата...



## Шыкоўны ўзрост!

**— Шчыра кажучы, гляджу на вас і думаю: як добра выглядаеце! Нават і не падумаеш, што вам за 70…**

— Хочаце запытацца, што раблю, каб захаваць маладосць? Калі дрэнны настрой — плачу.

**— Ага, слёзы як першы сродак для прыгажосці, і вочы ад іх блішчаць!**

— *(Рагоча.)* Што тычыцца касметыкі, то карыстаюся крэмамі для сухой скуры. А ўчора ўзяла ды аліўкавым алеем твар працёрла — і так хараша! А яшчэ касцявы мозг таксама добра на скуру ўплывае. Карацей, толькі натуральныя сродкі!

**— А падцяжкі?**

— Божа мілый, не! Цяпер, дарэчы, вялікі дэфіцыт акторак ва ўзросце, якія натуральна выглядалі б. А ёсць жа многа фільмаў, дзе запатрабаваны вясковыя жанчыны. Таму ніякіх падцяжак, псаваць сваё амплуа не буду!

**— А вам ніколі не хацелася вырвацца з амплуа сялянкі?**

— Я многа іграю і другіх роляў. А што тычыцца вясковых жанчын, то гэта вельмі цёплая для мяне тэма. Колькі цікавых персанажаў сялянак ёсць! Вазьміце лёс звычайнай вясковай жанчыны ва ўзросце: там і прыколы, і філасофія, і каханне! Вось вы думаеце, мне 75 і я дзьмухаўцом стала? Абсалютна! Змагаюся з сабой, калі бачу маладых хлопцаў! Глядзіш на іх і думаеш: *“Таня, хопіць, грэх, наперажывалася з-за кахання ўжо, спыніся!” (Рагоча.)*

**— Во, а кажуць, быццам у 75 ужо нічога не патрэбна!**

— Глупства! Гэта такі шыкоўны ўзрост — вы нават не ўяўляеце! Пачынаеш усё разумець... Раней жа што было? Любоў, дзеці, праца. Муж, Яўген Шыпіла, стаў народным артыстам раней, чым я заслужанай, хаця ў яго не было ніякай адукацыі спецыяльнай — проста вельмі таленавіты чалавек! Класны хлопец быў! І якое ж для мяне было гора, калі ён паглядзеў на іншую жанчыну і сышоў да яе! Для мяне гэта была такая трагедыя, быццам бы свет перавярнуўся!..

## Прыдуманае каханне

**— У сваіх інтэрв’ю вы распавядалі пра здраду мужа, але нідзе не казалі: ці даравалі яму?**

— Як бы гэта сказаць...

Ведаеце, у спектаклі “Тры Жызэлі” ёсць сітуацыя, калі ў мужа гераіні з’яўляецца палюбоўніца. І ў гераіні пытаюцца: *“Ты даравала?”.* Жызэль адказвае: *“Канешне”. “А на магілу ходзіш? “Так, быллём жа парасце...”*

Напэўна, і я даравала. І нават сябе абвінавачваю, што была *“жестокосердной”,* вельмі доўга ўва мне гэтая крыўда сядзела... Але, выбачайце, калі застаешся адна з дзецьмі, і ўсё валіцца табе на галаву...

Ён казаў: *“Таня, ну пацярпі, закахаўся”.* Якое цярпі! Альбо любіць, альбо не любіць!

**— А на магілу ходзіце?**

— Не паехала нават пахаваць!

**— І ніколі не былі?**

— Трэба з’ездзіць...

**— У аднаго вядомага рэжысёра ёсць кіно пра тое, як дзве жанчыны, якія ў свой час кахалі аднаго і таго ж мужчыну, пасля яго смерці раптам сыходзяцца і пачынаюць моцна сябраваць, падтрымліваючы адна адну… Вы так змаглі б?**

— Можа, яны нейкія святыя? Я так не здолела б! Мне лепш пабіць нягодніцу!..

Ведаеце, калі мінулі гады і эмоцыі суцішыліся, прыйшоў нейкі душэўны спакой. І такое адчуванне, што толькі цяпер я стала свабодная. Дзеці падраслі, ужо нават замуж павыходзілі, і я стала сама сабой. Мяне не раздзіраюць жарсці наконт таго, што нехта перастаў мяне любіць, турбот стала менш. І цяпер вельмі хораша! Не ведаю, як мужыкам, але жанчынам ніколі не трэба баяцца ўзросту. Гэта так хораша! Калі я раней за штодзёнымі клопатамі бачыла, як сонца ўзыходзіць над ракой?.. А зараз, калі глядзіш на гэтую прыгажосць, — аж слёзы ад радасці цякуць!..

**— А не ціснe сэрца ад таго, што адна, як таполя сярод поля?**

— Канешне, я звяртаю ўвагу на мужчын, і маладых таксама *(смяецца).* Магу нават і нафантазіраваць нешта, прыдумаць сабе каханне...

**— Ведаю, што ў вас было такое каханне да Васіля Быкава. *“Я нават да дома Быкава прыходзіла, каб лішні раз на яго паглядзець”,* — казалі вы. Ён адказваў вам узаемнасцю?**

— Гэта быў сапраўдны цуд! Неяк рэжысёр Міхаіл Пташук, які ставіў “Знак бяды”, запрасіў мяне са старэйшай дачкой на творчы вечар Быкава. А я згубіла білет! І Васіль Уладзіміравіч, які быў тады дэпутатам Вярхоўнага Савета, набыў мне новы. Дагэтуль памятаю, як ён бег з першага на другі паверх праз прыступку і крычаў: *“За мной!”* Было падобна, што мы разам у атаку беглі... Я так праніклася, што пачала чытаць усе яго творы. Хацела па тэкстах з ім бліжэй пазнаёміцца. А ў дзень ягонага нараджэння сядзела пад ягоным домам, спадзеючыся хоць здалёк пабачыць. І ўбачыла ўсё-ткі!

Мне было дастаткова такога кахання на адлегласці...

Памятаю, яшчэ калі хадзіла ў школу, мне ў нашай вёсцы вельмі падабаўся гарманіст Анатоль. Калі ён іграў на танцах, я, каб ніхто не бачыў, залазіла на куст бэзу і глядзела на яго... На танцы не хадзіла, бо думала: прыйду і ўсе адразу па вачах пазнаюць, што ён мне падабаецца! Назірала, калі ён з гармонікам дзеўку адну дахаты праводзіў. Мне для шчасця гэтага было дастаткова.

Мне і дагэтуль падабаецца такое каханне. Неразздзеленае, на адлегласці, вядомае толькі мне. У ім многа шчасця, фантазіі, радасці. А калі прыбліжаешся да чалавека, то...

Хаця... З Шыпілам і прыбліжэнне было шчаслівым.

## Дзе знайсці рай?

**— Ён, калі не памыляюся, быў вашым другім мужам. А што з першым не сышлося?**

— Першы муж быў сапраўдным прыгажуном! Разам з ім немагчыма было ехаць у грамадскім транспарце — усе на яго звярталі ўвагу! Сышла, калі ён знайшоў сабе іншую пару.

**— А я думала, гэта вы яго кінулі, закахаўшыся ў Шыпілу…**

—-Не! Была б яму патрэбная — не сышла б. Але я не магу цярпець здраду! І вось гэты страх, што мяне зноў могуць прамяняць на іншую...

**— …не дазволіў вам трэці раз выйсці замуж? Ці проста не сустракаліся надзейныя мужчыны? Мне падаецца, у вас павінна быць столькі прыхільнікаў…**

— Пра што вы гаворыце! Ніводнага не знаходзілася! А калі і падабаўся мне нехта, то не хацела глыбокіх адносін. Баюся! Дагэтуль баюся...

**— Некаторыя вядомыя артысткі ў салідным узросце заводзяць раманы з маладымі хлопцамі. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Ну і малайцы, правільна робяць! Гэта цікава, гэта жыццё...

Бывала, што і мне адрывала галаву. Але я знаходзіла сілы, каб ставіць яе на месца. Не дазволю, каб мяне яшчэ раз ад некага так збіла з ног...

**— Вы неяк казалі, што вас у Аўстралію звалі замуж…**

— Было. Яшчэ ў Бельгію зваў адзін беларус. Але я адмовіла. Ну што я на чужыне рабіць буду? Я тут нарадзілася, жыла і паміраць буду. Дый кахання з майго боку не было...

**—- Але ж, напэўна, вам абяцалі стварыць рай?**

— А раю ня будзе! Няма яго! *(Смяецца.)*

**— Вы, відаць, з тых жанчын, пра якіх кажуць — моцная.**

— Ой, ну якая моцная? Проста няма куды было дзявацца. І працаваць трэба было, і дачок на ногі падымаць...

Якая моц, што вы!.. Трэба было выжыць, вось і ўсё. Я варыла варэнні з усяго, што можна было знайсці! Усё перакручвалася і перапрацоўвалася, каб было што з’есці. Сёння дзеўкі выраслі, грошы ёсць, але я дагэтуль усё вырошчваю на гародзе. Пасля ўсё сушыцца, варыцца, квасіцца, кансервуецца і ў падвал ставіцца. Застаўся страх, што дзяцей трэба карміць, а будзе няма чым...

## Слёзы народнай

**— Вы кажаце, што грошы ёсць, а вашы калегі скардзяцца на сціплыя заробкі ў тэатрах.**

— Складана тым, хто працуе толькі на тэатр. Але сёння ёсць мажлівасць падпрацаваць у кіно, і многія нашы акторы гэтым карыстаюцца.

**— Вы з лёгкасцю пагаджаецеся на ролі ў серыялах?**

— А што, чакаць, калі будуць Шэкспіра і Дастаеўскага здымаць? Здымкі — гэта грошы. І, між іншым, шмат рэжысёраў, нават серыяльных, вельмі добра працуюць з артыстамі.

**— Вам падабаецца, што цяпер робяць з РТБД мастацкі кіраўнік Аляксандр Гарцуеў і дырэктар Ігар Сігаў?**

— Хлопцы стараюцца. Праўда, я не вельмі ў гэтым задзейнічана...

Многія спектаклі спісалі. Я, напрыклад, вельмі шкадую, што “Каласы пад сярпом тваім” не іграем — гэты спектакль заўсёды добра глядзелі, і ён быў







яшчэ не адыграны. Але, ведаеце, я проста гляджу на гэта мудра: бывае перыяд, калі моладзі трэба даць дарогу, і збоку ўважліва паглядзець і зразумець, што яны будуюць... Часта бывае, што людзі крычаць “*Гэта дрэнна!”* толькі таму, што самі ў гэтым не задзейнічаны...

**— А было нейкае хваляванне, калі змяніўся мастацкі кіраўнік?**

— Такія перамены заўсёды прыносяць хваляванні. І мяне яны не абмінулі.

**— Няўжо думалі, што папросяць з тэатра?!**

— Калі гэта здарыцца, то нават і не буду ведаць, як жыць...

Ведаеце, толькі цяпер для мяне нешта праясняецца ў прафесіі... Здаецца, пачынаю разумець, як і што трэба рабіць... Складаная прафесія, адным словам.

**— І не карупцыйная**.

— Так, акцёрам хабар няма за што насіць. І нічога ж не скрадзеш! Рэпліку ж не возьмеш з сабой дадому!

**— А рэквізіт?**

— Не, гэта не акцёры. Акцёры — святыя людзі! Ім галоўнае — каб пляскалі ў далоні! *(Рагоча.)*

Дарэчы, яшчэ акцёрская прафесія наталяе. Вось гэтае выдуманае, віртуальнае чужое жыццё, якое ўвасабляеш на сцэне, замяняе нават самыя моцныя пачуцці! Ты нібы над жыццём, над зямлёй, калі стаіш на тэатральным памосце. І нават калі праблемы нейкія — ты любой роллю выкажаш свой боль. І лягчэй становіцца. Калі сыграў добра, усе праблемы як рукой здымае!

**— А як вы разумееце, што сыгралі добра? Калі зала шалёна пляскае ў далоні альбо калі кветкі кошыкамі нясуць?**

— У “Трох Жызэлях” ёсць момант, калі я кажу: *“Лямпачка мая згарэла...”*

(*Змахвае слёзы і хвіліну маўчыць...)* На сцэне я не плачу... Прабачце...

*“Лямпачка мая згарэла, трэба новую ўкруціць...”* І цішыня ў зале — аж звініць!

**— Я сама двойчы была на “Жызэлях” і кожны раз дзівілася, што амаль усе ў зале рыдаюць. Прычым шморгаюць насамі не толькі жанчыны ва ўзросце, але і зусім маладыя дзяўчаты і нават хлопцы! Можаце патлумачыць, з-за чаго гэтыя слёзы? Тым больш што ў тэатры ёсць і больш моцныя спектаклі…**

— Там лёс гераіні такі... Думаю, кожная жанчына ў гэтым спектаклі знаходзіць нешта блізкае...

Я перад тым, як ісці на фінальную сцэну, дзе ўся зала шчыра плача, сабе за кулісамі ціха кажу: *“Як добра! Ідзе летні дождж. Цеплыня такая... І вясёлка. І такая цішыня, такі спакой, так хораша...”* І вось так спакойна і хораша, на маю думку, на душы маёй гераіні. Я выходжу на сцэну з адчуваннем шчасця і святлом у душы, з дараваннем і прыняццем таго, што адбылося. Абсалютна без усякага драматызму! І менавіта гэта перакульвае. Усе плачуць, устаюць, і... апладысменты. А я думаю: *“Усё недарэмна было ў жыцці...”* І цешаць мяне не апладысменты, а хвіліна яднання з такой колькасцю людзей. І пасля гэтага, верыце, мне не патрэбна, каб нехта сёння браў мяне за руку, а заўтра я за ім неслася з крыкам: *“Ты куда, Одиссей, от жены, от детей?!”*

Але калі-небудзь сэрца прыціскае, асабліва калі глядзіш, як двое ідуць, і бачна, што паміж імі пачуцці...

**— Асабліва ўвесну такое здараецца…**

— Так...

Ой, нейкая бабская размова ў нас атрымліваецца!..

**— Таццяна Рыгораўна, а вы ў тэатры, калі не на сцэне, а ў глядзельнай зале, плачаце?**

— А то!

А яшчэ гляджу спектаклі ў нашым тэатры і так зайздрошчу артыстам! Думаю: якія малайцы, як іграюць! Радуюся за іх і думаю: *“Я так не змагла б...”*

**— Вы два гады таму атрымалі званне народнай артысткі. Ганарыцеся?**

— Канешне, было прыемна. Але мне ад звання галаву не знесла. Канешне, гэта нейкае прызнанне заслуг, а добрыя словы — яны заўсёды прыемныя. Як кажуць, медныя трубы для мяне не гора.

Аднак калі рэпеціруеш, то не мае значэння, народны ты ці не. Могуць і накрычаць — статус тут не бароніць! *(Смяецца.)* Адзін раз, дарэчы, добра так раўла — гадзіны дзве без перапынку! Галасіла! І ўжо ў статусе народнай. Не хачу казаць, з-за чаго, але было такое. Таму гэты статус недатыкальнасці не дае. Аднак рэжысёр — гэта святое, ён цябе можа і ў хвост і ў грыву! Лічу, рэжысёра трэба любіць заўсёды. Таму — з кім працую, таго і люблю.

**— У вас здараліся раманы з рэжысёрамі?**

— У Віктара Турава была закаханая. І ён заўжды да мяне добра ставіўся...

Нават у маленькіх серыялах я паспяваю на некалькі дзён закахацца ў рэжысёра. А як жа!

Я вам так скажу: калі чалавек саспеў да моцнага пачуцця, яно з’явіцца. Але толькі ў самога жар унутры павінен быць! А калі няма, дык другі чалавек не запаліць у табе гэтае каханне...

Хаця ёсць жанчыны, якія любяць, каб перад імі на каленях стаялі... Але, калі ты кахаеш, навошта на калені ставіць, навошта чалавека так мучыць? *(Смяецца.)*

## Філасофія жыцця

**— Актрыса Коласаўскага тэатра Святлана Акружная пэўны час была “сенатарам”. Вы ніколі не хацелі пайсці ў дэпутаты?**

— Я начальнікам не люблю быць, у мяне другая прафесія.

**— А ўвогуле, сацыяльна-палітычнымі пытаннямі цікавіцеся? Вось, напрыклад, усіх кошты хвалююць…**

— Я не ведаю, колькі што каштуе. Проста прымаю як даннасць (*смяецца).*

**— Вы амаль усё жыццё размаўляеце па-беларуску…**

— Думаю, я не псую мову. І сама часам скажу ў маршрутцы і думаю, як прыгожа гучыць (*гаворыць ціхім пяшчотным голасам):* “*Будзьце ласкавы, спыніцеся на прыпынку “Плошча Незалежнасці”!”*

І сама заслухваюся, калі нехта прыгожа размаўляе на мове. Вось я ў трамваі езджу кожны дзень, чую многа маладых людзей, якія па-беларуску размаўляюць без усялякай напругі. Бачна, што яны і думаюць па-беларуску. І гэта так хораша! Мне падаецца, беларуская мова — элітная.

**— А калі вы пераключыліся з рускай?**

— Калі пачала працаваць у Коласаўскім тэатры. Там былі шыкоўныя акторы, і тэатр са сваімі традыцыямі... У той атмасферы проста немагчыма было застацца рускамоўнай.

**— Гадоў пяць таму вы збіраліся запісаць дыск фальклорных песень — многія ведаюць, што вы вельмі добра спяваеце. Чаму не адбылося?**

— Натхненне ёсць, і песні ёсць, і голас яшчэ гучыць, але... Не ведаю, з якога канца ўсё гэта пачынаць. Каб хто дапамог — з задавальненнем адгукнулася б.

**— Вы маеце медыцынскую адукацыю. І калі б не кінулі медінстытут, то цяпер у вас было б зусім іншае жыццё…**

— Не прывядзі Гасподзь!

**— Яшчэ самі ставіце сабе дыягназы ці ўсё ж звяртаецеся да лекараў?**

— Не, поўнасцю давяраю спецыялістам...

Калі выпускаецца спектакль, жывёш і думаеш: толькі б не захварэць! Акцёры лечацца, калі вольныя, а не тады, калі хварэюць. На спектаклі, здараецца, і з тэмпературай прыязджаюць, і з болем у сэрцы. Калі што — “хуткая” пасля спектакля забярэ. Колькі разоў такое бывала!..

**— Чаго вам сёння не хапае для шчасця і поўнай гармоніі? Пачынаючы ад роляў і сканчваючы простымі побытавымі рэчамі…**

— Канешне, хацелася б такой унутранай раўнавагі. Няёмка гаварыць такім тэкстам, але... У чалавечым свеце, у свеце людзей, здаецца, я ўжо многае пабачыла. Не кажу, што ўсё ведаю, але такога здзіўлення і адкрыццяў вялікіх няма. І наўрад ці будуць.

Як бы гэта мякчэй сказаць... Яшчэ менавіта ў гэтым свеце можна адчыніць дзверы ў Божы свет, каб цябе там прынялі... Але столькі выграбаць трэба з сябе, што нават думаеш: адкуль столькі нарасло таго, што цяпер трэба чысціць? *(Плача. Некалькі хвілін маўчыць.)*

І тут працы — непачаты край! Але гэта работа, думаю, у рэшце рэшт прынясе радасць. І тады з’явяцца гармонія і раўнавага. І свет будзе здавацца іншым...

(*Змахвае слёзы.)* Здавалася б, гэта простыя рэчы. Не разгневацца на чалавека. Але немагчыма стрымацца іншы раз! Карацей, аўгіевы канюшні... І я думаю: калі трэба было пачынаць гэтаю чыстку? І ці паспею?..

***Па шчацэ Мархель коціцца сляза, і ў гэты момант размову перапыняе званок мабільнага тэлефона. Таццяна Рыгораўна, у якой яшчэ паўхвіліны таму вочы былі на мокрым месцы, шчаслівым голасам нешта шчабеча ў слухаўку, жартуе.***

— Вось вам і жыццё! — *са смехам усклікае яна, паклаўшы тэлефон.* — Толькі што тужылася, філасофію ціснула, нават сляза натуральная была, і тут раптам — хі-хі па тэлефоне! Вось і вер потым гэтым артысткам, калі яны гавораць нешта сур’ёзнае!..

Як казаў класік, усё жыццё — тэатр...

КАДРЫ

## Новым главным архитектором Минска стал Николай Власюк

*В Минске сменился главный архитектор города — председателем Комитета архитектуры и градостроительства горисполкома стал **Николай Власюк.***

Как сообщает onliner.by, до этого назначения он работал заместителем директора по науке и информатике НП РУП “БелНИИПградостроительства”.

Николай Власюк окончил Брестский государственный технический университет. После аспирантуры работал архитектором в “БелНИИПградостроительства”. Кандидат архитектуры, доцент, заместитель председателя Белорусского союза архитекторов.

Предыдущий главный архитектор столицы Александр Петров руководил комитетом с ноября 2011 года, сменив на этом посту Виктора Никитина. На протяжении двух лет Петров продолжал курс на уплотнение городской застройки, пытался реформировать порядок проведения общественных обсуждений, исключив из него фактор “хочу не хочу”, предлагал запретить коммерческим застройщикам возводить в Минске панельное жилье.

ЗА НАШЫХ!

## Хто едзе на Алімпіяду?

*Выканкам Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі зацвердзіў папярэдні склад беларускай дэлегацыі на XXII зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы.*

У Сочы з 6 па 23 лютага беларускія спартсмены выступяць у 7 відах спорту.

**Біятлон**. Дар’я Домрачава, Анастасія Дубарэзава, Надзея Скардзіна, Людміла Калінчык, Надзея Пісарава, Сяргей Новікаў, Уладзімір Аляніна, Яўген Абраменка, Уладзімір Чапелін, Юрый Лядаў. Рэзерв — Ірына Крыўко, Аляксандр Дарожка.

**Фрыстайл.** Ала Цупер, Марыя Шчарбіна, Ганна Гуськова, Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі, Антон Кушнір. Рэзерв — Аляксандра Раманоўская, Вольга Капусціна, Максім Гусцік, Станіслаў Гладчанка, Дзяніс Восіпаў.

**Лыжныя гонкі.** Валянціна Камінская, Кацярына Рудакова, Алена Саннікава, Сяргей Далідовіч, Аляксей Іваноў, Аляксандр Лазуткін, Міхаіл Сямёнаў. Рэзерв — Юрый Астапенка, Аляксандр Воранаў.

**Горныя лыжы**. Марыя Шканава, Юрый Данілачкін. Рэзерв — Вячаслаў Юдзін.

**Хуткасны бег на каньках.** Кацярына Марозава, Ксенія Садоўская, Таццяна Міхайлава, Віталь Міхайлаў.

**Шорт-трэк**. Вольга Талаева, Вера Антоненка, Яўген Рыжоў, Максім Сяргееў, Аляксандр Антоненка.

**Фігурнае катанне**. Марыя Палякова, Павел Ігнаценка, Мікіта Бачкоў.

КРИМИНАЛ

## Анну Сердечкину убил бывший муж

*Так считают следователи.*

Главным следственным управлением Следственного комитета завершено расследование уголовного дела по факту убийства руководителя минского клуба лучников-любителей Анны Сердечкиной.

Женщина пропала в августе 2013 года. О пропаже заявил ее бывший супруг. Как сообщает отдел информации и связи с общественностью Следственного комитета, *“в ходе проведения следственных действий и оперативно-розыскных мероприятий появились основания подозревать заявителя причастным к исчезновению женщины”.*

Подозреваемый сознался в совершении убийства своей бывшей жены и указал где спрятал останки погибшей.

Следствием был назначен комплекс различных видов экспертиз, в том числе судебно-медицинские, ряд криминалистических, комплексная психолого-психиатрическая. По результатам последней обвиняемый был признан вменяемым.

В ближайшее время дело будет слушаться в суде.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

